**закануpка** — конура
**закарэць** — засохнуть, покрыться засохшими сгустками
**закасаць,—цца** — засучить, заворотить (полы, рукава)
**закаханы** — влюбленный
**закаханьне** — влюбленность
**закахацца** — влюбиться
**закаштаваць**—испробовать, отведать, вкусить
**закід** — вопрос или поступок, и м е ю щ и й целью поражение противника; укор, упрек, ехидный намек; выпад против чего или кого
**закідаваць** — намекать с задней мыслью; говорить, подозревая в чем-либо
**закісаньне** — брожение
**закісаць**—бродить; закисать
**заклад** — пари; залог (см. *застава*); основание (*закладзіны*)
**закласца**—побиться об заклад; основаться
**заклік** — клич; вызов; всенародный призыв
**заклікаць**—позвать, покликать, пригласить
**заклікаць**—зазывать
**закляты** — заколдованный
**закраса** —приправа; то, что сообщает лучшее свойство
**закрасіць** — приправить
**закрутка** — щеколда с вертящимся вокруг засовом; палка, тонкий кол
**закупіць** (*абедню* или *імшу, панахвіду*—(заказать, чтобы отслужили; подкупить, сделать подкуп; закупить
**закута** —хлев; конура
**закутаць** — затворить хлев, запереть в хлеву
**закутнік** — сыщик для обысков
**залатоўка**—15 к.
**залатуха** — золотуха;

**Анютины глазки**, *цветок* («браткі»)

**залацэнечкі**—милюсенький

**залежнасьць** — зависимость

**залезцца**—разжиться, раздобыться

*Пахадзіў па суседах, залезся на нарогі*

**залеплены**—заклеенный (конверт)

**залетась**—позапрошлый год

**залеташні** — позапрошлогодний

**залёты** — ухаживание, волокитство, снискивание расположения девицы

**заліцацца** — ухаживать, добиваться взаимности

**залічаць**—зачислять

**залічыць**—посчитать за кого, принять за кого; зачислить

**залога**—заложник

**залова**—железа

**залом**—колдовство, которое заключается в том, что на сломленных стеблях ржи или овса произносится заклятие с целью причинить вред, болезнь хозяину

**залоўка** — сестра мужа

**залужжа** — места за болотами

**залупіўшы**—задравши

*Карова бяжыць, залупіўшы хвост*

**залучаць,—чыць** — загонять (к себе во двор чужую скотину); включать; присоединять, так или иначе завербовать к себе, в свои ряды; случайно заходить куда-либо на минутку, идя по дороге мимо; перехватить на дороге

*Трэба залучыць чужыя коні, што ходзяць па нашай руні*
*Залучым іх у свой гурток*
*Ехаў бліска вашае хаты і залучыў*

**зальжэньне** — облегчение

**зальжэць** — полегчать (от слова „льзя", т. е. можно)

*А на двары троху зальжэло, адпусьціўся мароз*

**за-любкі**—очень охотно, с любовью, с радостью, с удовольствием

*За-любкі можна пайсьці за г ткача хлопца*

**заляпіць** — закидать грязью; заклеить

**замала**—маловато

**замалнасьць** — недостаточное количество, малость

**за-малым** — почти, с небольшой разницей; чуть-чуть не

*За-малым не трапілася гэтак і са мною*

**замамыліцца** — поморщиться, закусить губы, выразить движением губ недовольство или замешательство; сконфузиться

**замамыліць**—надуть, закусить губы

*Замамыліўся, як сказалі праўду ў вочы*

**замана** — приманка, соблазн

**замануцца**—захотеться; слишком захотеть

**замардаваць**—замучить

**замарыцца** — устать, умориться

**замер**—намерение, умысел

**замераны** — предпринятый

**замест**—вместо

**замець** — метель с ветром

**замерзлы**—замерзший

**замёт**—снежный занос, нанос снега; бревенчатая ограда, стенка

**заміж** — вместо (того, чтобы)

**заміленьне** —умилостивление, заглаживание вины; привязанность

**заміляцца** — сменять гнев на милость, чувствовать прежнее рас-

положение, благодаря смирению и ласковости виноватого

**замідяць** — располагать к себе хорошим поведением, расчитанным на это; умилостивлять, подкупать кротостью

**замінаньне**—помеха

**замінацца** — страдать от *замінаньня*

**замінаць** — препятствовать, мешать, служить помехой

**заміраньне**—перемирие; мирный исход

**заможнасьць** — зажиточность; могущество

**заможны**—богатый, зажиточный

**заморак**—заморыш

**замоўка**—словесное ходатайство; колдовской заговор; колкость

**замста** — забвение; какая - то забывчивость, как бы умственное затмение

*Як у замсьце, — а ніяк ня ўспомню*

**замсьціць**, *замсьціла* — напала забывчивость, нашло необъяснимое забвение

**замінка** — замешательство; препятствующее обстоятельство

**замужка** — замужняя

**замураваць** — заложить камнем и замазать глиной

**замшыцца** — покрыться мхом

**замыканьне**—запирание на ключ

**замятня** — замешательство, смятение, суталока

**замятуха** — вьюга, метель с ветром

**замяцьньне** — смятение

**занадта**—черезчур, слишком

**занепадаць** — клониться к упадку; недомогать, прихварывать

**зануджаны**--заморенный

**занудж*а*ць**—изнурять

**зан*у*дзіцца** — зачахнуть, изнуриться

**занядб*а*ньне** — нерадение, пренебрежение, халатность

**занядб*а*ць** — оставить в пренебрежении

**занядужаць** — захворать, занемочь

**занямелый** — онемевший

**занямець**—онеметь

**заняп*а*сьць** — придти в упадок; опуститься

**заних*а*ньне** — небрежение, небрежность, отсутствие должного внимания

**запав*е*трыца**—пропасть, сгинуть, быть будто унесенным ветрами

*Гдзе я запавeтрыуся? як пайшоу, д-к няма й няма*

**запав*е*трыць**—заразить воздух, завонять

*Падлаю запаветрыла*

**зап*а*л**—загар (лица); раздражение, горячность, запальчивость

**запал*е*ньне**—воспаление

**запал*і*цца**—загореться

**запал*і*ць**—зажечь

**запал*я*цца**—горячиться

**зап*а*шнік**—соучастник в обработке земли

**з*а*піс**—запись; завещание

**запл*а*та**—мзда, награда

**заплік*а*ньне** — застегиванье

**заплік*а*ць** — застегивать (крючки)

**запліkн*у*ць**— застегнуть (крючки)

**запл*я*міць**—запятнать

**заплят*а*ць**—вплетать

**зап*о*зна**—поздновато

**зап*о*іны**—помолвка (засв*а*таньне) и угощение по этому случаю

**запрапашч*о*ны** — пропащий; запропастившийся

**запр*э*гчы**—запрячь

**з*а*пусты**, или **з*а*гавіны**—заговенье

**запх*а*ць**—засунуть; заткнуть

**запыл*і*цца**— **запылиться;**

вспылить, загореться гневом

**запыт**—запрос

**запыхацца**—быстро, глубоко, неровно дышать от трудной или быстрой ходьбы, от гнева, волнения и т. п.

**запэўняць**—заверять, уверять

**зараз**—скоро, сию минуту, тотчас-же

**зароботкі**—заработная плата

**заробіць**—заработать

**зараблянне**—зарабатыванье

**зарабляць**—зарабатывать

**заразьліва**—оскорбительно; заразительно

**заранка**—утреняя звезда

**зараньне**—рассвет, наступление утра

**зараня**—заблаговременно; ранее надлежащего

**зараць**—светать

**зарваны**—задетый; спрошенный на уроке учителем

**зарваць**—задеть, досадить

**заробіць**—заработать заслужить

**зарок**—клятвенное обещание воздержаться

**зарубка**—насечка

**заружа**—лютик ползучий, *раст.*

**зарука**—ручательство

**заручаць**—обручать

**заручыны**—обручение

**зарэчча**—место за рекою

**засек**—закром

**засіліць-цца**—зацепить,-ся

**заскачыць**—застать

**засланьне**—ссылка

**заслона**—занавес; деревянный или металлический полукруг, которым закрывают печь

**заслугаваць**—заслуживать; заискивать

**засмучаць** — огорчать, опечаливать
**засмучоны** — опечаленный, огорченный
**заснаваньне**—основание
**заснаваць**—основать, положить начало
**засоў**—задвижка
**застава**—залог
**заставаць**—заложить, отдать в залог
**застаўка** — шлюз, постав в мельнице
**застаўнік** — закладчик
**застольле** — место за столом
**застольнік**— нахлебник
**застроміць** — вонзить
**застудзіць**—простудить
**заступнік** — заместитель; защитник
**засуш**, или **сухмень**—засуха
**засьвядчаць** — свидетельствовать
**заськігліць** — завыть, завизжать, захныкать, завопить
**засьценак** — поселение мелкой шляхты
**засьцерагаць** — предостерегать; беречь, оберегать
*Няхай нас Бог засьцерагае!*
**засьцерагчы** — предостеречь
**засьціць** — заслонять свет
**засьцярога** — предосторожность
**затарахцець** — затрещать, забарабанить, загреметь
**затаўка** — мясная приправа к кушанью
**заткала**—то, чем затыкают
**затлумліваць** — заглушать
**затока**—залив, бухта
**затопа** — невылазная грязь; разлив, наводнение
**затохнуцца** — задохнуться
**затулак** — уголок; конурка

**затуляць**—защищать, закрывать собою
**затха**—вонь, спирающая дыхание
**затым** — затем, после того; потому, затем
**затычка** — маленькое *заткала* (см. выше)
**заўважаць** — обращать внимание; делать замечание; подмечать, усматривать
**заўважыць**—приметить; заметить; обратить свое или чье-либо внимание

*Ен мне заўважыў колькі памылак*

**заўдаць** — задать, дать почувствовать
**заўзятасьць**—упорство, отвага, стойкость
**заўзяты**—упорный, настойчивый, убежденный
**заўлоньне**—пазуха
**заўсёдны**—всегдашний
**заўсёды**—всегда, постоянно
**заўчора**—позавчера
**захаваньне** — сбережение; сокровение
**захавалы** — строго соблюденный
**захаваць**—соблюсти, сохранить, приберечь
**захад**—запад
**захадзіцца**—устать от хождения; слишком увлекаться, выходить из себя

*Плачуць, аж заходзяцца*

**захалоджаны** — остуженный, замороженный; простуженный
**захапіцца**—увлечься
**захапленьне** — увлечение, восторг, пыл
**захапляць, -цца**—захватывать, увлекать, -ся, восторгаться
**захад** — закат; забота, попечение
**заходлівасьць**, см. **захадзіцца** — крайняя степень гнева, печали и т. п.; нервность, волнение

*Заходлівасьцю бядзе не парадзіш*

**заходлівы** — слишком увлекающийся, чувствительный, нервный, болезненно-настойчивый

**заходны**—западный

**захраснуць** — засориться; засесть (косточке в горле)

**зацікавіць** — заинтересовать, разжечь любопытство

**зацікаўленасьць**—заинтересованность; возбужденное любопытство

**зацікаўлены** — заинтересованный; любопытствующий

**заціжарыць** — см. *панесьці*, зачать, стать беременной

**зацін**—понуждение

**заціркa** — мучное кушанье из мелких катышков, иногда на молоке

**заціш** — тишь; тишина в укромном месте

**зацішак**—укромное местечко, тихий уголок

**зацішна**—тихо, спокойно, укромно

**зацішна** — спокойнее, тише

*На дварэ стала зацішна, завеі ўжо няма*

**зацьвісьці** — расцвести

**зацьвітаньне** — расцветание

**зацьвітаць**—расцветать

**зацяміць** — приметить; понять

**зацярушыць** - запорошить

**зацьма**—затмение

**зачапіцца**—зацепиться; начать ссору, спор

*Хлопцы зачапіліся біцца*

**зачараваньне** — очарование; действие волшебства

**зачараваць**—очаровать; заколдовать

**зачаўрыць** — захиреть

**зачы**—за глаза

**зачын**—начало действий
**зачыніць** — затворить, закрыть
**зачыняць** — затворять, закрывать
**зашамацець** — зашуршать, зашуметь
**заюшыцца** — забегаться; засуетиться; потерять выдержку; облиться кровью

*Заюшыўся за работаю*
*Заюшыўся крывёю*

**заява**—заявление
**заядацца** — задираться, грызться ссориться, не сдерживать себя; нападать, лаять (говорится о собаке); истощаться от плохого питания
**заядаць** — закусывать; загрызать, изводить бранью, лаем
**заядлы**—завзятый
**заяўнік** – заявитель
**збавіць** — сбавить, убавить; спасти
**збажына** — часть *збожжа* (говорится для обособления); нива
**збасаваць** — сжить со свету, извести
**збаўляць** — уменьшать; убавлять; избавлять, спасать
**збожжа** — хлеб, снятые и свезенные хлебные посевы
**збожнасьць** — богобоязненность, милосердие
**збольшыць** — увеличить, расширить размер; сделать более надлежащего
**зборка**—сходка, собрание; сборник
**зборніца** — их бывает три: неделя православия, последнее воскресенье перед Р. Х. и 7 января (ст. ст.)
**зборы**—приготовленье в путь, в поход, сборы

*Мае зборы: лапці, аборы*

**збосьць**—забодать
**збочыць**—уклониться в сторону
**збрахаць**—соврать
**брод**—блудливый; проказник
**збродаваць** — проказничать, красть съестное, делать непозволенное
*Наш кот надта зброд.івы*
**збройна**— вооруженно
**зброя**—оружие
**збываньне** —оправданье надежд
**збыт**—избавление?
*Нам збыту няма ад яго прычэпак*
**збытак**—избыток, изобилие
**збытна**—с изобилием
**звага** — уважение; внимательность к кому или к чему
**звадзіць** — обольщать, искушать; сплетничать; клеветать; смыкать (глаза); сводить
**звадка**—ссора, распря
**зважаць** — обращать внимание
**зважна** — рассудительно, степенно; не спеша, с выдержкой
**зважны** —степенный
**валеньне**—соизволение
**валяць**—соизволять
**зван ц**, или **скавародкі** — погремок, , *раст.*
**званы**—колокола
**званьніца** — **колокольня**
**зв ньне**, *а ні званьня, да званьня* —наименование?
*Арашыў да званьня* (уничтожил в конец, до искоренения имени, звания)
**зварот**—поворот; обращение; оборот (речи)
**зваротак** — обращение (в грамматике)
**зваротны**—возвратный
**зварушліва**--трогательно
**зварушыць**—сдвинуть с места; взволновать, тронуть, растрогать

**звод** — вырождение, конец; клеветник,-ца

*Каб на іх звод!*

*Ах, ты, звод! назвадзіў на мяне, набраха*

**зводаль**—издали

**зводлівы** — обольстительный, соблазнительный; склонный сплетничать

**зводнік**, **ца** — см. *звод*; соблазнитель-,ница

**зводнічаць**—наушничать

**зводы**—клевета, сплетни

**звольна** — слегка, понемногу, не проворно, медленно

**звон**—колокол; звон

**звонкі**—бубновая масть в картах

**звонку**—извне

**звыкла**—привычно

**звыклы**—общепринятый; привычный; привыкший

**звыкнуць** — привыкнуть; пристраститься

*Звык хадзіць па сваёй волі, ня слухае бацькоў.*

**звычай** — обычай; обыкновение

*Навучай на свой звычай*

**звычайна** — обыкновенно, по обыкновению

**звычайны** — обыкновенный; заурядный

**звычка** — навык, привычка

**звычны** — привычный, приучившийся

**звыш**—сверх; над

**згадаць** — вспомнить; рассудить, обдумать

**згаджацца**-- соглашаться

**згадзіцца**— согласиться; пригодиться

**згадка** — память, вспоминание

**згалець** — обеднеть

**зганіць**—осудить; найти негодным, забраковать

**згарбаціцца**—сгорбиться

**згаслы** — потухший

**згаснуць** — потухнуть, погаснуть

**згледзіць** — усмотреть, заметить

*Ня згледзіў, як бліснуў агонь*

**згода**—согласие

**зго́джаны**—приведенный к соглашению, согласившийся

**згодлівасьць**—сговорчивость

**згодлівы**—согласный; миролюбивый, сговорчивый

**згодна**—согласно

**згон**—день, в который все поголовно должны были работать на панском поле

**згорда**—свысока

**згорш**—наихуже

**зграбны**— стройный, изящный, ловкий

*Зграбны, як вол да карэты* (ирония)

**згрыза**—угрызение (совести); крайне досадные, неприятные нападки

**згрызьць** — сглодать

**згуба** — погибель, пагуба; потеря

**згубіць**—потерять, утерять; погубить

**згубнік,-ца** — губитель,-ница

**згубны** — губительный, пагубный

**згукі** — отзвуки

**згуртаваньне** — накопление, собирание; организация, сплачивание

**згуртавацць,-цца**— сплотить,-ся, организовать,-ся, сгруппировать,-ся, собрать,-ся; накопить,-ся

**згушчаць** — уплотнять, сгущать

**здабываньне** — завоевание; добывание

**здабываць** — приобретать, завоевывать; добывать

**здабыць**—получить, приобрести, завоевать, добыць

**здабыцьцё**, или **здабыцьце** — приобретение, добыча

**здавальняць** — удовлетворять

**здавацца**— казаться; сдаваться

**здавольненьне**—удовлетворение

**здалёка**—издалека

**здань** — привиденьне, призрак

**зданьнё** — виденьне; необъяснимое явление; созданное воображением

**здарма**—напрасно

**здарыцца** — произойти, быть

**здарэньне**—случай, происшествие, неожиданное событие

**здатнасьць** — наклонность, способность к чему-либо

**здаў, здаўна**—издавна

**здацца**—положиться

**здогад** — предположение, догадка

**здоліць** — иметь силу, быть в состоянии, суметь; одолеть, превозмочь, победить

**здолу** — снизу

**здольнасьць** — даровитость, способность

**здольнік** — участник, пайщик, имеющий право на свою долю

**здольны** — даровитый, талантливый, способный

**здомыслу**— по догадкам

**здор** — сало на внутренностях

**здохлы** — павший, околевший

**здохнуць** — околеть

**здужаць**—осилить; побороть, одолеть

**здуру** — по глупости, сдуру

**здрыганущца** — содрогнуться, поколебаться; вздрогнуть, потрястись
*Здрыганулася зямелька*

**здрыгануць** — потрясти очень сильно, до основания, всколыхнуть

**здрыганьне** — вздрагивание

**здрыгацца**—вздрагиват<sub></sub>ь

**здрыжнік**, или **сьлёзкі** трясунка, *трава*

*Каб дзеці ня здрыгаліся спаўшы, як кладуць у ваду, купаючы іх*

**здымацьцца**—снимать,-ся

**здыхата**—падаль

**здыхаць** — издыхать, околевать

**здыхляціна** — падаль, труп околевшего животного

**зеліва** — травяные семена

**зельле** — плевелы, сорная трава; снадобье из целебных трав; трава, семена

**зельнік** — гербарий

**земскае** — народное

**зерне**—зерно, зернышко, семянное зернышко

**зернятка** — зернышко

**зерняты** — зерна

*Пасып піскленку зернят*

**зёлка**—засушенная травка

**з-за** — из-за

*З-за цябе й ні мяне сварацца*

**ззаду** — сзади, с тылу

**зімавое**—озимь; озимое

**зімавы**, **зімовы**—зимний

**зімавы** — озимый

**зірк** — глядь

**зіркатасьць** — наблюдательность; зоркость

**зіркаты**— наблюдательный

**зіркаць** —стрелять глазами, быстро смотреть, бегать взлядом

**зірнуць**—быстро взглянуть; посмотреть

**зіхаць** — дышать; позевывать

**зіхацець**—ярко блестеть

**злаба** — озлобление

*За што яны маюць на мяне злабу?*

**злаваць** — см. *злуваць*, злиться, сердиться

**зладзіць** — поладить; справиться с кем или с чем; устроить

**злажыць**—сложить; составить (книжку)
**злакаман** — злодей
**злакаманка**— злодейка; лихорадка
**зламаць** — сломить
**зламіць** — сломать
**зламысны** — злоумышленный; недоброжелательный
**зларадасна**—злорадно
**зларадасьць** — злорадство
**злашча** — тем более, в особенности
**злаяцца**—выругаться
**злодзей**—вор
**зломак** — негодный, ослабевший человек; что-нибудь сломанное
**злосьнік,-іца**—враг, недоброжелатель,-ница
**злосьць**—злоба

*Злосьці поўны косьці*

**злот**—15 копеек
**злотнік** — золотых дел мастер
**злуваць,злаваць**—злиться, сердиться, негодовать

*А ён злуе, вярдуе*

**злупіць**—содрать
**злучальны** — соединительный,-няющий
**злучаць,-цца** — соединять, -ся
**злучнік**—соединитель
**злучны** — соединившийся, соединенный
**злучок**—маленькое тире в грамматике (-)
**злучэньне**—соединение
**злы**—злой
**змаганьне**—борьба
**змагацца**—бороться
**змагаць**— преодолевать; брать верх, одолевать
**змалку** — сызмальства, с малолетства
**зманіць** — прельстить; соврать
**смарагд**—изумруд
**змардаваньне** — усталость, измученность
**з-міжы** (вас) — из вас, из вашей среды
**змокнуць**—промокнуть

**змова**—сговор, соглашение

**змовіць** - привести к соглашению, уговорить

**змога** — возможность, сила

*Працуй, колькі ёсьць змогі*

**змогчы** — побороть, смочь

**змора** — усталость; слабость, истощение сил

**зморшчаны** — морщинистый

**зморшчына**—морщина

**змрок**—сумрак

**змрокам**—сумерками

**змрокі**—сумерки

**змрочыньне**—смеркание

**змрочыцца**—смеркаться

**змрочыць**—сумерничать; смеркаться

**змуста**—соблазн, искушение, дурной пример

**змусьціць**— соблазнить, искусить

**змушчаць** — соблазнять, искушать, смущать

**знавалу**— принужденно, по принуждению

**знадворку**—снаружи

**знаёміць,-цца** — знакомить,-ся

**знайдыш** — найденыш, подкидыш

**знаймавацца** — прикладываться ко кресту

*Прыйшоў у царкву спазьніўшыся: калі ўжо знаймавацца пачалі*

**знайсьці**—найти

**знаходка**—находка

**знацца** — вести знакомство; иметь в чем познание

*Ен добра на гэтым знаецца*

**знацьцё**—знание

**значна**—заметно

**значны**—заметный

**значыньне**—значение

**зносіны**—сношение, сношения

**зносьліва**—выносливо

**знушчацца** — глумиться, издеваться, измываться

**знушчэньне**— глумление, издевательство

**золак** —ранне утро, первые проблески утрен-

ней зари на горизонте, рассвет
**золка** — холодно, ненастно, туманно
**золь** — непогодь, ненастье, сырой туман
**зорачка** — звездочка
**зорка** — звезда, звездочка
**зорна**—звездно
*Аж зорна у-ваччу ад яго табакі*
**зорнае**—звездное (небо), усыпанное звездами
**зрода**—измена
**зрадзіць**—изменить
**зрадлівы** — изменчивый; вероломный
**зраднік,-ца**—изменник,-ца
**зразумелы**—понятный
**зразумець**—понять
**зраньня**—с утра
**зрахаваць** — сосчитать, расчитать
**зрок**—зрение
**зруга**—издевательство
**зругацца** — издеваться
**зручна**—с руки, удобно
**зрынуць** — столкнуть, низвергнуть
**зрэб'е**—третий, худший сорт льна
**зрэнка**—зрачок
**зусім**—вовсе, совсем
**зусюль** — отовсюду, со всех сторон
**зыбацца** — колебаться, колыхаться
**зыбка**—колыбель
**зыг**—гл. *зык*
*Скаціна зышча*
**зыйсьці**—сойти
**зык** — звук; состояние рогатого скота во время зноя, когда он мечется
**зыкацца** — побрыкивать; метаться от зноя
**зыкать**—жужжать
**зыск** —право взыскания; прибыль, польза, выгода
**зыскоўны** — выгодный, прибыльный
**зычаць**—звучать

**зычлівы** — доброжелательный
**зычыць**—желать
**зычэньне** — звучание
**зьбегі**—побег
**зьбеглы** — беглец, беглый
**зьбяднець**—обеднеть
**зьбялелы** — побелевший
**зьбяленьне**— побеление; бледность
**зьбялець**—побелеть; побледнеть
**зьвекаваць** — провести всю жизнь

*Зьвекавала ў дзеўках*

**зьвекавечыць**—увековечить
**зьвеку** — извечно; издревле
**зьвінець**—жужжать (как комар); звучать, греметь
**зьвісаньне**—свешивание
**зьвісаць**—свешиваться
**зьвіслы**—свесившийся
**зьвіх**—вывих
**зьвіхнуць**—вывихнуть
**зьвяга**—беспрерывная, надоедливая брань, лай

*Воўк не сабакі баіцца, а зьвягі яго*

**зьвягаць** — надоедать словами, долго повторять одно и то же
**зьвяглівасьць** — склонность браниться
**зьвязак**—связь
**зьвярнуць, -цца** — обратить, -ся
**зьдзек**— издевательство
**зьдзекавацца**, или **зьдзякацца**—издеваться
**зьдзівіцца** — удивиться, поразиться
**зьдзівіць**—удивить, поразить
**зьдзіву**—с удивления
**зьдзічэньне**—одичание
**зьдзічэць**—одичать
**Зьдзьвіжаньне**—Воздвижение Креста Господня
**зьзяньне**—сияньне
**зьзяць**—сиять, блестеть
**зьлепішча** — конгломе-

рат; разные части, соединенные мазью
**зьлёгка**—потише; снисходительно, слегка
*Злёгка сып, каб не разсыпаць*
*Зьлёгка пакаралі*
**зьляканьне**—испуг
**зьмей**—змий, уж, гад
**зьмененае** – измененное
**зьменшыньне** — уменьшение
**зьменшыць**—уменьшыть
**зьневажаць**—пренебрегать, оказывать неуважение; оскорблять, позорить
**зьнеткуль** — откуда-то; неоткуда
**зьнехаця**—неохотно; невольно, нечаянно, неумышленно
**зьнецяйку**—неожиданно; невзначай
**зьніба**—сердечное томление
**зьнібелы**—томительный; томящийся
**зьнібець**—щемить
*Зьнібеець сэрца*

**зьніз**—*кажух* и *жупан* в месте, рукав в рукав
**зьніканьне**—исчезание, исчезновение
**зьнікаць**—исчезать
**зьнікнуць**—исчезнуть
**зьніштажаць** — уничтожать
**зьніштажэньне** — уничтожение
**зьніштожыць** — уничтожить
**зьнішчыць**—истребить
**зьнішчэньне** — истребление
**зьнявага** — неуважение; бесчестье
**зьняважлівы**—неуважительный, пренебрежительный
**зьнявэрыцца**—потерять веру; лишиться доверия
**зьняволіць**—принудить, приневолить
**зьнялюбець**—перестать нравиться; опротиветь
**зьнямелы**—онемевший
**зьнямець** – онеметь

**зьнямога**—изнеможение
**зьнясьці**—снесть
**зьнячэўку** — нечаянно, внезапно
**зьясі**—съешь, скушаешь
**зьясьцё**—съедите, скушаете
**зюзь**—горький пьяница
**зюкаць** (провинциализм)—говорить, беседовать, разговаривать
**зюканьне** — говор, разговор
**зябер**—пикульник, *раст.*
**зябіць**—знобить
*Я застудзіўся, мяне зябіць*
**зябры**—жабры
**зязюлька** — ятрышник, *раст*; кукушка
**зязюлькіны сьлёзы** — ятрышник испятнанный, *раст.*
**зязюля**—кукушка
**зяліцца**—как бы пьянеть, как бы подвергаться действию *зелья*
**зяліць** — околдовывать *зельлем*, очаровывать
**зямелька**—землица
**зямельны**—земляной
**зямец**—пчеловод
**зямецтва**—пчеловодство
**зямчуг**—жемчуг
**зясьмін**—жасмин

# І

**ігрышча**—игрище, вечеринка с музыкой и танцами, праздничные забавы молодежи
**ігрэц** —игрок; музыкант
**ідучы**—идущий, текущий
*У ідучам гаду на ўсё добры ўрод і ўмалот*
**ідучы**—идя
**ізноў**—снова
**ікаўка**—икота
**іліць**—юлить
**ільга**—возможно, можно
**ільсьлівасьць** — лесть, льстивость

**імавернасьць** — вероятность; доверчивость

**імасьць** — ее (=*і*) милость (=*мовьць*)

**імаць** — брать; иметь; понимать

*Імай яго рукою*
*Ня ймі веры*
*Ня ймецца навук*

**імбрычак**—чайник

**імжа** — изморось

**імжыцца**—моросить

**імпэт**—напор, сила, натиск, стремительность

**імшыць** — конопатить мхом

**інакш, іначай**—иначе

**інакшы**—иной, не такой

**індык, -чка**—индюк, индейский петух, индейка

**іноси**—иное дело

**інтарэс**—выгода, польза, интерес; дело

**іншы**—иной, другой кто-нибудь

**ірдзель** — ярко-красный; краснощекий

**ірдзіцца**—рдеть

**іржа**—ржавчина

**іржышча**—ржаная стерна, оставшиеся в поле стебли сжатых хлебных злаков

*Аб іржышча пакалоў ногі*

**ірзаць**—ржать

**ірта**—лыжа

**іспод**—низ вообще, дно печи, нижняя часть какого-либо сосуда, вещи, предмета

**іспадак**—блюдечко

**іспадка**, или **спадка**—рукавичка

**іспыт** — испытание, экзамен

**іста**—основной капитал; суть, сущность

**істнаваньне**—существование, бытие

**істнаваць** — существовать, быть

**істнуючы** — существующий, имеющийся; существуя

**істны**—истый, настоящий

**істота**—существо; натура; суть, то, что в чем-либо главное
**істотны**—существенный
**істотна**—существенно
**ісьці**—идти
**ісьці ўгрудкі**—вступать в драку, хватать за грудь
**ішоўшы**—идя, шедши

# К

**каб**—чтобы, кабы; пусть бы; если бы
**кабат**—часть женского костюма, нечто вроде корсета
**кава**—кофе
**кавалак**—кусок
**каваль**—кузнец
**кавэнчыцца** — мучиться пред смертью
**кавярня**—кофейня
**каганец** — светоч, светильник, плошка
**кадаўба** — боченок из выдолбленного толстого дерева
**кадушка**—кадка
**кажамяка**—кожевник
**кажан**—летучая мышь
**кажух** — шуба, тулуп; горизонтальная часть дымовой трубы в избе
**каз**—искажение
**казаньне** — проповедь; говорение
**казаць**—говорить
**казачына**—казакин, род одежды
**казелец**—лютик, *раст.*
**казёл**—гриб масляник
**казка**—сказка
**казытаньне**—щекотание
**кайданы**, или **зялезы**—кандалы, оковы, цепи
**кака**—нечистота, грязь (на детском языке)
**какаць** — испражняться; говорить по-русски (т. е. *как* вместо *як*)
**кал**—испражнение

**калакалуша**—черемуха
**каламажка**—тележка
**каламянка**—парусина
**каланіца**—сгустившийся деготь; колесная мазь
**калануць** — кольнуть; уколоть
**калапні**, или **канаплі**—конопля
**калатня**—ссора, смута, брань
**калыска**—колыбель
**калыскавы** - колыбельный
**калыхаць**—качать, колебать
**калюга**—глубокая колея, выбоина
**калюжына** — рытвина, выбоина, яма на дороге
**калючка**—шип
**каля**—около, возле, подле, близ
*Каля вашае хаткі дрэўца расьцець*
**каляда** — право причта получать у прихожан в некоторое время года плату натурою; старинный обычай поздравления в Рождественские святки
**калядаваць** — собирать *каляду*; проводить Рождественские святки
**Каляда посная**—постный день накануне Крещения
**Каляды** — Рождественские праздники
**калянасьць**—плотность какой-либо материи, вообще отвердение
*Кажух папсаваўся: пасьля дождджу высах і цяпер надта **каляны***
**каменьне**—камни
**камель**—толстый конец (ствола дерева и т. п.)
**камёза**—лобатый,-ая
**камёзасьць**—комолость
**камёзы**—комолый, безрогий
**камізэлька**—жилет
**камінар**—трубочист
**камлёт** — суконная или шерстяная ткань; жен-

ская одежда из этой ткани

**камлыга** — ком, глыба земли

*Як ён даскародзіць, ты грабелькамі паразьбівай з краю камлыжкі і падграбі зямлю з лажка*

**камора** — прохладная комната, кладовая, амбар; камера, комната

**каморнік**—землемер

**каморніцтва** — землемерное дело, искусство измерения

**камы** — густая картофельная каша с салом или маслом

**камяга**—корыто для водопоя у колодца

**камяк**—см. *камы* (преимущественно с постным маслом или с маком)

**камяніца** — каменный дом

**кананьне**—кончина, умирание

**канапа**—диван

**канарханьне** — слезливое настойчивое выпрашиванье

**канархаць**—со слезами и назойливо вымаливать; читать каноны и провозглашать стихиры

**канаць**—кончаться, помирать

**кандыба**—человек с ковыляющей походкой; слабосильная лошаденка, кляча

**кандыбаць** — ковылять, прихрамывать; кое-как плестись

**канечна** — непременно, обязательно

*Не канечня папу яечня,— зьесьць і дзяк*

**кантычка**—сборник духовных песен, псалмов

**канцавы**—крайний, находящийся в конце, живущий в конце улицы

**канчальны**—предельный, окончательный

**канчар**—конец, отрезок

**канчатак**—конец, окончание

**канчук**—нагайка

**канькканьне** — см. *канькаць*

**канькаць** — канючить, вымаливать, ныть; сравнить—*канархаць*

**канюшок**—мальчик, пасущий лошадей

**каня**, или **канюх**— звукоподражательное название птицы из породы коршунов; ее появление и крик предсказывают дождь

**капа**—мера в 60 штук; копна, скирда сжатой ржи или омет скошенного сена

**капанíца** — выкопанный ров, вырытый пруд

**капач**—заступ, лопата; крюк для сбрасывания навоза с телеги (*скапывач*)

**капачкі падабраць** — иметь удовительное сходство

**капашыцца** — шевелиться, барахтаться; кишеть

*Дзіцёнак капошыцца ў люльцы*

**капашыць** — шевелить, разворачивать, вызывать кишение

*Нэ капашы кійком мурашак*

**капец** — межевой знак; земляной бугор, насыпь, курган

**капка**—капля; крапинка, точка, пятнышко

**каплíца**—часовня

**капота** — род верхней одежды

**каптан**—кафтан

**каптур** — шапка, капюшон; чепчик у замужних женщин и грудных детей; абажур

**капцюры**.—когти, большие ногти

**капшук**—см. *кісет*, мешочек, сумочка (с курительным принадлеж-

ностями, деньгами и т. п.); кокон

**капыл**—колодка для натягивания; одна из палок, посредством которых к полозьям приклепляется вся остальная часть саней

**капыльле**—собирательное от слова *капыл*,—*капылы*

**капыт,-ы**, или **капыцьце** копыто, копыта

**капялюх**—шляпа

**кара**—наказание

**каравай**—свадебный пирог

**каравайніца**—родственница, наблюдающая за печением *каравая* и ходом всего соответствующего церемониала

**караваць**—кровать

*Не пайду з табою ў адну клетку спаць, на адну караваць*

**карагод**—хоровод; вереница, толпа

**карагодзіцца**—хорохориться, ерепениться; суетиться (как бы водя хоровод); дружить

**карагодчыца**—подруга

**карадзіцца**—корчиться, преувеличивая вид своих мучений, своей боли, чтобы тем что-нибудь выиграть

**карак**—зашеек; толстый, жирный затылок

**каралі**, или **кралі**—ожерелье, бусы

**караньне**—приведение в исполнение наказания

**караскацца**—карабкаться; выползать, цепляясь за стенки; придираться, приставать

**караціць**—укорачивать

**караць**—наказывать

**карачкі**—корточки

**карачэньне**—укорачивание

**карбаціцца**—коробиться

**карбаціць**—коробить, искривлять ровную поверность

**карбачаньне** — искривление; принятие неровных форм, образование выпуклостей и впадин от высыхания, сырости и т. п. причин

*Гэтыя дошкі дрэнныя, з карбачаньнем*

**кардон**—граница

**кардонны**—пограничный

**каржавіць**, или **каржэць**—грубеть от грязи, от неблагоприятных внешних условий

*Без дагляду і боты каржэюць*

**карзун**—см. *хляк*, слишком ярый *хляк*, свинья-самец

**карк**—см. *карак*

*Як даў яму па карку,—агу! ён і з капыльля далоў*

**кармазын**—алое сукно, ткань темно-красного, малинового цвета

**кармазынавы**—малиноновый

**карнавухі** — с поврежденными, оборванными или постоянно опущенными ушами

*Сабачка наш карнавухінькі*

**карожыцца** — грубо капризничать,- обнаруживать нахальное самодурство; внешним видом, болезненными движениями проявлять признаки серьезного заболевания; подвергаться судороге

*Ці глынуў на грош гарэлкі, і пачаў карожыцца*

*Як ён карожыцца, хіба надта баліць*

**кароза**—сойка

**кароста**—чесотка

**кароткасьць** — краткость

**Карпа**—Карп

**карпаньне** — кропотливость, медленная и непроизводительная работа

**карпацца** — кропотливо работать, копаться

**карпаць**—ковырять, копаться, медленно делать

**Карпека**—Карп
**карта**—письмо, записка; карта
**картаваць** — тасовать; перелистывать (*лістаць*)
**картэўнік,-ца**—картежник,-ца
**картэўнічаць** — предаваться картежной игре
**карузла**—коряво, заскорузлю
**карузьлік** — корявенький, невзрачный
**кархавіньне** — плевки, мокрота
**кархаць** — харкать, отхаркиваться, выплевывать мокроту
**карцець**—сгорать от нетерпения, желания; желаться, хотеться, являться беспокойным, нетерпеливым стремлением; быть досадливым чувством, ощущением
*Яму пачало карцець, што яе няма, яму карцела пабегчы туды, дзе яна, карцела пачуць ад яе хаця славечка, і карцела, што ці не з другім яна*
**карціна**—игральная карта (говорится для обособления)
**карціць**—от *карцець*, досадливо хочется, беспокойно, настойчиво желается, мешает спокойствию духа
**карчага**—корень, выкорчеваный пень, искривленная, уродливой формы палка, обрубок
**карчок**—маленькая *карчага*; пенек
**каршэнь** — удар по затылку; холка, затылок
**карысна** — полезно, выгодно, прибыльно
**карысны**—полезный
**карыстаньне** — пользование, извлечение выгоды
**карысьней** — полезнее, выгоднее
**карысьць**—польза; при-

быль; выгода; приобретение; преимущество
*Ці каму карысьць, што ў караля жонка хараша?*

**карэлы** — с черствым сердцем; очень зачерствевший; покоробившийся от высыхания; загрязненный, покрытый грязью, бурою корою

**карэньне** — корни

**карэц** — кружка (собственно—ковш берестяный, из бересты, или оплетенный берестою)

**карэць**—черстветь; отвердевать, загрязняться, будто корою покрываться (сравн. — *каржэць*)

**касаваньне**— уничтожение или отмена; аннулирование

**касаваць,-цца** — уничтожать,-ся; отменять,-ся; вычеркивать,-ся

**касавіца** — горячая пора кошения, косьбы, разгар сенокоса

**касавурыцца**—коситься, скашивать взгляд, сурово смотреть, избегая прямого взгляда

**касец** — косарь

**касільно**—палка, на которую насаживается коса

**кастамара** — громадная кость

**кастамары** — ширококостый

**кастрыца**—костра, мелкие кусочки стеблей льна, конопли

**кастрычнік**—месяц октябрь

**касьнік**—лента, которую вплетают в косу

**касьсё**—рукоятка косы, см. *касільно*

**касьціць** — марать, гадить; пакостить

**касьцянігцы**—костяника, *касьцянка*, ягода

**касьцянігшнік** — стебли костяники

**кат**—палач, истязатель
**катаванньне** — истязание; казнь
**катаваць** — истязать, предавать пыткам
**катарынка** —шарманка
**катляр** — медник
**катух** — курятник; гнездо для домашней птицы; особенной формы соломенная плетенка для голубей, которую подвешивают обыкновенно под стрехой
**катэдра** — кафедра; кафедральный собор
**каўбаса, или кілбаса**—колбаса
**каўдобіна**—рытвина на дороге, ямка, выбоина
**каўзацца** — скользить; кататься по льду или с горки (*на казе ці маразянцы*)
**каўзель** — скользкое место; каток
**каўка, или сіваграк** — сивая ворона
**каўканьне** — мяукание; карканье
**каўкаць**—мяукать; каркать; есть большими, плохо пережеванными кусками, торопливо пожирать
*Кот мяўкае, просіцца ў хату*
**каўнер** — воротник
**каўкнуць** — мяукнуть; издать последний звук, умирая; испустить дух
**каўток** — глоток пищи; скачавшийся комочек чего-либо плотного
**каўтун**—болезнь волос у жителей болот и лесов; бывает и у животных (в гриве лошадей),—колтун
**каўтунаваты** — подверженный *каўтуну*
**каўцюх** — комок испражения (лошади, овцы), катышек грязи
**каханец,-нка** — любовник,-ца

**кахaнчык**—любимчик
**кахaньне**—любовь
**кахaцца** — любить друг друга
**кахaць**, *кахаю*—любить
**кахiкаць,-аньне** — покашливать,-нье
**кaхля** — изразец, кафля
**кацaп**—ругательное слово, великорос
**Кацaпшчына** — Великороссия, Московия
**кацeлка**—кружок, который качают мальчики
**кацiцца**—катиться; ягниться
**кацячы**—кошачий
**качaлка** — скалка для раскатывания теста, белья
**качарэжка**—клюка
**качарэжнiк** — место в пороге, возле печи, где ставят ухваты
**кaчка**—утка
**кашлaты**—мохнатый
**кашoлка**—корзинка, коробок
**каштавaць** — стоить; пробовать вкус
**каштасьпiс**—смета
**каштоўны**—ценный, дорогой
**кашуля**—рубашка
**кашэль**—корзина с крышкой
**каюк** — конец, смерть, гибель
**квaдра**—четверть
**квактaньне**—лягушачья икра
**квакуха**—наседка
**квaрта**—четверть гарнца, бутылка
**квас**—квас; кислота
**квaсна**—кисло
**квасoль**—фасоль, турецкие бобы
**кватэра**—квартира
**квач**—мазилка
**кветка**—веточка
**квiлiньне** — жалобные крики птицы, зверя
**квiсьць**, или **цьвiсьць**—цвести
**квiт**—расписочка, квитанция

**квок**—лягушачья икра
**квактаць** — клохтать; квакать
**кволасьць** — хрупкость, слабость
**квота**—процент, рост
**квотнік**—ростовщик
**квотн к** — живущий на проценты; ростовщик
**квохаць** — расслабленно охать, стонать, вздыхать (от болезненности, усталости или страсти)
**кел** — клык, зуб
**келзаць** — взнуздывать (см. *муздаць*)
**келіх** — чаша; рюмка
**келішак** — рюмочка, *чарачка*
**кельня** — келья; лопаточка каменщика
**кем цьь**—соображать, понимать, быстро схватывать
**кемкасьць** — сообразительность, сметливость
**кемкі** — сметливый
**кемнасьць**—см. *кемкасьць*
**кемны** — см. *кемкі*
**кеп** — дурак, глупец
**кепска**—скверно, дурно
**керзаць** — плести
**кеска** — кошелек, киса
**кібіць** —упругая выпуклость; древко лука
**ківаць** — шатать, колебать, толкать; кивать
*Ня ківай стала, я-ж пішу*
**кігікаць** — говорится о чайке: пищать, кричать
**кій, кіёк** — тонкая и длинная палка, трость
**кілім** — ковер; попона
**кім**—кем
**кіпаць**—коготь, ноготь
**кіраваньне** — направление действий
**кіравацца**—направляться
**кіраваць** — править, управлять
**кіраўнік**—руководитель

**кіраўнічы** — управляющий

**кірмаш**—ярмарка

**кірпаты** — курносый; окарнаный

**кірунак** — направление действий, газеты, образа мыслей и т. п., линия поведения

**кірэчыць** — (рас)корячить, растопыривать

**кісет** — см. *кеска, капшук*, киса, сумочка

**кіснуць**—закисать; киснуть

**кісьлявы**—кисловатый

**кіт**—оконная замазка

**кітаваць** — замазывать для прикрепления стекла в раме

**кітайка**—род легкой бумажной ткани

**кіханьне**—хихиканье

**кіх-кіх** — подавленное ха-ха

**кішэнны**—карманный

**кішэнь, кішаня**—карман

**кладка**, или **кладзь** — перекладина через канаву, ручей и т. п.

**клапаціць**— заботиться, беспокоиться

**клапоты** — заботы, хлопоты

**класца, класьціся** — ложиться

**кленчыць** — стоять на коленях

**клец**, или **клёц** — зуб в бороне (кел—клык—зуб)

**клець, клетка** — кладовая, прохладная комнатка; амбар

**клёк**—жизненная сила; разум, смысл

**клёцка** — вареная галушка, катышек

**клмкаць**— производить звук, трогая струну

**клічнік** — восклицательный знак (!)

**клічны**—звательный

**клопат**—забота, хлопоты (сопряженные с некоторой долей грусти, неприятности, тогда

как *рупата* с этим не сопряжена)

**клопат сабе! клопат мне!**—не беда!

**клубы** — тазобедренные кости

**клум** — шум, галдеж, беспокойство

**клумак** — котомка, узелок, связка

**клуміць** — шуметь, галдеть, отвлекать от дела криком, возней, заглушать

*Ня клумі мне галавы:*
*Цішэй! ня клуміце*

**клумка**—см. *клумак*

**клумна**—шумно

*З дзяцьмі ў хаце клумна*

**клунак** — вьюк, узел, см. *клумак*

**клуня** — большой сарай; рига, гумно

**клупіна**—царапина

**клыпаць**—прихрамывать, иметь приседающую походку

**клыш**—хромоногий

**клышаногі**—косолапый

**клюбы**—тиски

**кляве́ц**—молоток

**кляйно**—знак, отметка, клеймо

**кляйноды**—атрибуты власти

**клямка**—щеколда с ручкой, защелка у двери, рукоятка у дверей; переносно: конец, гибель

**клясьці**—проклинать

**кляцьба**—проклатия

**кляштор**—католический монастырь

**кляшчотка** — трещотка

**кметлівасьць** — сообразительность

**кмеціць**—примечать; понимать, постигать

**кнігарня**—книжная лавка, книжный магазин

**кніжніца**—библиотека

**кнораз** — невыхолощенный самец; вепрь, кабан

**кнот**—фитель

**кныхаць**—хныкать, ныть

**княгіня** — невеста во время свадьбы (*маладая*); княгиня
**князеўна**—княжна
**князеўства**—княжество
**князь**—жених на свадьбе (*малады*); князь
**князьства**—княжество
**коварат**, или **вага**—колодезный журавль
**кожны**—каждый
**козыт**—щекотание
**кока**—яйцо (на детском языке)
**кокаць**—коготь
**кола**, или **каток** — колесо; круг
**коламазь** — колесная мазь
**колер**—цвет
**колкі**—колючий
**колькі** — сколько; несколько
**колькідзесят** — несколько десятков
**колькінаццаць** — более десятка
**комін**—дымовая трубы
**кон** — предопределение, судьба; фатальность; очередь; игральное место во время игры в карты, поле игры
*Мой кон—памерці без пары*
*Сяньні ваш кон вартаваць уноччы*
*На кану рубель*
**конаўка** — большая кружка, ковш
**конік** — лошадка; кузнечик
**конт**, *на конт...*—относительно
**конча**—непременно, обязательно, конечно
**корч**—корневище, вырытый корень, пень
**копанка**—большая вырытая яма, наполненная водою
**копань** — *копанка*, пруд
**копішча**—место, где рыли землю
**Копша** — гробокопатель, мифическое существо
**коптар**—излишек
**коптарам** —с излишком, сверх меры, выше краев

**коска**—запятая
**костка**—кость
**кося** —ласкательное обращение к лошади
*Гэй, мой косю вараненькі!*
**котка** — кошка; раскатисто
*Котка коціцца гук па полю шырокаму*
**коткі** — склонный катиться, хорошо катящийся из-за своей круглости и т. п. предмет
*Грошы коткі*
**коўдра**—одеяло
**кохнуць** — питать страсть, привязанность и как бы охать, страдать, если чувство встречает какие-либо препятствия или неблагоприятныя условия
*Кохніць па дзяўчыне, па дзетках, па мужу*
**коч**—коляска
**кош**—кузов; корзина
**кошт**—издержки
**кошык**—корзинка; кузовок
**кпіць** — трунить, подсмеиваться; шутить, дурачиться
**крактаць**—кряхтеть
**крамніна** — фабрикат, фабричные изделия, продаваемые в *краме*
**крамны**—лавочный (товар)
**крамсаць,-ньне**— коверкать,-ние, ломать
**крамяней**—плотнее, крепче
**крамяны** — плотный, крепкий
**крануць,-цца**—тронуть,-ся, двинуть,-ся
**крант**—кран
**крапка**—крапинка, точка
*Хвустачка з крапкамі*
**крапясты**—покрытый крапинками
**крапясьценькі** — покрытый точечками, пестренький
**красаваньне**—цветение; расцвет; счастливейшая пора

**красавік**—апрель

**красамоўства**—красноречие

**красала**—огниво

**красаць**—высекать огонь

**краска**—полевой цветок

**краснае пісьменства**—художественная литература

**красьба**—украшение

**крата**—прут в металической решетке; клетка на ткани

**кратацца**—сдвигаться с места

**кратаць**—сдвигать с места, употребляя усилия; чрезмерно накладывать (воз и т. п.), прилагая большие силы

*Кратаў, кратаў ды й накратаў гэткі воз, што бадай конь не павязець*

**краты**—решетка

**кратчаты** — клетчатый; решетчатый

**краўчыха**—жена портного

**краец, или акраец**—краюха (хлеба)

**кроіць хлеб** — нарезывать ломтями

**крок**—шаг

**кроква**—стропило

**кросны** — ткацкий станок

**кроўнасьць**—родство

**крохка**—ломко, хрупко

**крохкасьць** — ломкость, хрупкость

**круг**—окружность; круг; вокруг

**круглавіды** — круглолицый

**кружала** — диск; круг; круглая крышка

**крук, крумкач** — ворон

**крумянасьць**—упругость здорового тела

**крупеня**—суп из перловой крупы

**крутка**—ловко

**крутня** — плутовство, обман; кружение

**крутнуць** — покрутить; повернуть

**круцель**—мошенник, плут

**круціцца** — кружиться, вертеться

**круціць** — вертеть; плутовать

**круч**—круча, обрыв; глубокое место в реке (*вір*)

**круччо**—воронье

**крушні**—заросли волчьих ягод

**крушына**—волчьи ягоды, *куст*

**крывабег** — кровеобращение

**крыважэрнасьць**— кровожадность

**крывавіць** — окровавливать

**крывапрысяга**—клятвопреступление

**крываўка**— дезинтерия

**крывісты** — полнокровный

**крывуля** — изгиб, кривизна; человек с тяжелым характером

**крыга**—льдина

**крыж** — крест; крестец у животных

**крылка**—крылышко

**крыніца**—родник; источник

**крынічнік** — вероника ручейн., *раст.*

**крынічны** —родниковый

**крыўдаваць** —обижаться, выказывать обиду

**крыўдзіць**—обижать

**крыўдна**—обидно; оскорбительно; несправедливо

**крыхачку** —немножечко

**крыху**—немного

*Усяго па-крысе*

**крышталь** — кристалл

**крышыць**—крошить, резать, рассыпать

**крыю**—крою

**крэгля**—кегля

**крэйда**—мел

**крэхаць**—трещать

*У лесе крэхнула ляшчына*

**ксьціны**—крестины

**ксьціць**—крестить

**ксяндзоў плеш** — одуванчик, *раст.*
**кубар**—взятка
**кубел** — кадка с крышкой вместо сундука; сравн. *кубышка*
**кудзеля**—лен, пряжа
**кудзеркі** — уменьш. от слова кудри
**кудкудахтаць** — кудахтать
**кудлаты** — взлохмаченный; косматый
**кудлы**—космы
**кудысь**—куда-то; куда-нибудь
**кужаль** — первый сорт льна
**кузьня**—кузница
**кукобіцца**—нежиться
**кукобіць** — лелеять, пестить
**кукоблівы** — склонный ласкаться, нежиться
**кукоблены**—взлелеянный
**кукса**—человек с изуродованной рукой: неимеющий пальцев и т. п.
**куксіцца**—обнаруживать признаки желания спать: смыкать глаза, позевывать и т. п. (говорится преимущественно о детях)
*Хлопчык куксіцца, кладзі яго спацькі*
**кулага**—кушанье из вареного сладко-кислого теста
**куламеса**—неразбериха; смесь; сутолока, толкучка
**кулдыкацца** — кувыркаться
**кулдыячаньне** — лепет; невнятная речь
**кулдыячыць**—лепетать; невнятно говорить, скрадывать слоги и слова
*Яшчэ году няма, а ўжо нешта кулдыячыць*
**кулеш**—мучное кушанье, густое, с салом или колбасой
**кулікушкі**—детская игра *прятки*
**кулікуваць**—отыскивать спрятавшихся участ-

ников игры «кулі-кушкі»
**куль** — большой сноп, куль соломы
**кульба** — клюка; согнутая дугою палка; седло
**кульбака**—кривая палка, согнутое дерево; седло
*Стан пагнуўся, як кульбака*
**кульга**, или **кульгака**—хромец, хромоножка
**кульгавы**—хромой
**кульгаць**—хромать
**кульгачны**—хромающий от кривоножья, болезненного растройства
**куля**—пуля; ядро
**кумільгам**—кубарем, кувырком, очень быстро
*Сабака кумільгам кінуўся на вуліцу*
**кумкаць**—квакать (глухо и сладострастно)
**кумпяк**—бедро; окорок
**кунада** — картофель (Гродненск. губ.)
**Купала** — миѳическое существо, бог любви
**Купальле** — ночь на 24 июня ст. стиля, Иванов день, белорусский праздник в честь весны
**купарвас**—купорос
**купена** — вид ландыша, *раст.*
**купец**—покупатель
**купцтва**—купечество
**купецкі**—купеческий
*Ня люблю абы-якога, люблю сына купяцкога*
**купля**—покупка
**купляны** — купленный; покупной
**купляць**—покупать
**купнасьць** — совокупность
**купнік**—кочка
**куп'е**—кочки
**кур**—мельчайшая земляная или дождевая и т. п. пыль
*Закурыўся дробны дожджык Кур-пыл на вуліцы*
**куранё**—цыпленок
**курапа**—жаба
**курасадня**—куриный насест
**курка**—курица, курочка

**курна**—дымно
**курна**—мурлыканье
**курны**—дымный; без дымовой трубы (дом)
*Курная хатка была ў дзеда*
**курняўкаць,-аньне** — мяукать,-нье, мурлыкать,-нье
**курта**—куцый, с обрубленным хвостом
*На вуліцы курта брэшаць,*
*Да мяне мой мілы чэшаць*
**курт**а**ты**—малорослый
**курчанё**—цыпленок
**курчына**—толстая перекладина в хате от печного столба до противоположной стены
**кус** — кусок; столько, сколько можно откусить
*Не для Йсуса, а для хлеба куса*
**кусака** — кусающийся,-щаяся
**кусанік** — огрызок, кусок
**кусьлівы** — кусающийся, склонный кусаться, кусающий
*Кусьлівы сабака*
*Кусьливае слова*
**кут**—угол вообще, красный угол в частности (*покуць*)
**кутас**—кисть (для украшения), темляк
**кутнік**—бобыль
**кутня**—кутерьма
**куток** — уголок, укромное местечко
**куфа**—кадка, чан, бочка
**куфар**—большой сундук
**кухавар,-ка**—повар,-иха, стряпуха
**кухаль**—бокал большого размера, глиняная кружка
**кухар**—повар
**кухва** — сорокаведерная бочка с двумя доньями; кадка, боченок, чан
**кухлік**—кувшинчик, молочник
**куць**—ковать

**куцьця**—канун, сочельник

**кучаравы** — курчавый; кудрявый

**кучбай**—байка

**кучмы** — космы, копна волос

**кушаць** — пробововать, отведывать кушанье

**кушнер**—скорняк

# Л

**лабаты** — лобатый с большим лбом

**лабуніцца** — ухаживать, любезничать, умело подходить, чтобы заслужить расположение

**лава**—скамья

**лавачка**—скамеечка

**лагоднасьць**—кротость, мягкость

**лагун**—какое-то растение

**лагчына**—лощина

**лад**—строй, порядок

**ладзіцца** — готовиться; починяться

**ладзіць** — устраивать; починять

**ладка**—оладья; ладонь

**лаёвы**—сальный

**лажа**—плата за размен денег

**лажня**—посуда для мёда

**лажыць**—класть

**лаз** — проход в стене, изгороди и т. п.

**лазаніца** — вербейник, *куст.*

**лазіць**—*лазіць пчол*, подрезать мед

**лазобка**—баул; деревянная посуда, гл. обр. липовая, с тонкими цельными стенками из выдолбленного обрубка, служит для складывания меда, ссыпания муки

**лазьбіны** — подрезание

